## ЗЬМЕСТ



Adres Redakcji i Administracji: Wilno, ul. Św. Jańska 12-1.
Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Сьв. Яна 12-1.

Redaktor-wydawca ANTONI KABAK.
Рэдактар-выдавец А. КАБАК.

Drukarnia M. Bogatkiewicza i B. Trućko
Wilno, ul. Ad. Mickiewicza 22-a, m. 30.

**Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.**

**„25 SAKAWIKA" Marzec 1939 r.**

# 25 Сакавіка

**ЧАСАПІС БЕЛАРУСКІХ СТУДЭНТАЎ**

*САМІ САБЕ СВАІМІ СІЛАМІ!*

**№ 1** **Сакавік 1939** **Год IV**

Акт 25 сакавіка быў шчытом беларускай палітычнай думкі.

Маўляў яснае сонца засьвяціла над Беларусяй. Не загасіла яго варожая сіла са Ўсходу. Яно сьвеціць у сэрцах Беларусаў. Як сьвету бяз сонца, так Беларусі цяпер бяз Акту 25 сакавіка падумаць не магчыма.

Затрымаемся над абставінамі ў якіх гэты Акт быў абвешчаны. Вось вясна з цэлай сваей магутнасьцю закрасавала ў нашай старонцы. Завітала сьвету сьвята Благавешчаньне-Зьвяставаньне, у каторае, паводле агульнага праканаханьня, нават птушка гнязда ня ўе. Праз гэта Беларус хоча выявіць сьвятасьць, чар і значэньне Тайніцы, каторую яму гэта сьвята прыпамінае: абвешчаньне перамогі дабра над злом, жыцьця над сьмерцяй, вызвалельне чалавечага роду з няволі зла праз Сына Божага, каторы стаецца чалавекам за справай Духа Св. у лоне Прачыстай.

Ціж магла быць адпаведнейшая хвіліна для Абвешчаньня Вольнай Беларусі? Як глыбокая думка ў гэтым скрыта для нас!

У гэты вясьняны, сьвяточны дзень пры ўсходзе сонца прадстаўнікі з цэлай Беларусі абвесьцілі ўсяму сьвету вялікі Акт 25 сакавіка.

Магутнасьць і размах моладасьці і вясны, чар і жыцьцядайнасьць рэлігіі, любоў да бацькаўшчыны спатkаліся разам, каб даць па ўсе часы Беларусі яснае сонца Ідэі. Гэтыя дзейнікі бязумоўна аддзеялі дэцыдуюча на псыхіку і волю тых, каторыя адважыліся на гэты вялікі патрыятычны чын і то тады калі грымелі гарматы і на вачох ворага. Не збаяліся брутальнай сілы — бо сіла не перамагае Ідэі. Так і сталася.

Актам 25 сакавіка былі накрэсьлены найшырэйшыя, найвышэйшыя граніцы думкам і імкненьням Беларускага Народу. Зьмест гэтым граніцам меў даць сам Народ. Вось Маладыя Адраджэнцы поўныя найлепшых імкненьняў, маючы перад вачыма Ідэал 25 сакавіка ўзяліся разам з Народам да працы. Пачалі сваю працу праз выданьне Ідэовай Дэклярацыі, каторая ёсьць сынтэзай найлепшых думак і імкненьняў Народу. Там ёсьць размах і магутнасьць моладасьці, сьвятасьць і жыцьцядайнасьць рэлігіі і ахвярная любоў да бацькаўшчыны.

Возьмем хоцьбы гэты урывак з Дэкларацыі:

„Ідзе новая эпоха — Рух Маладых Адраджэнцаў ёсьць яе душой, сьведамая воля цэлага Народу будзе яе тварцом і зьместам, Ідэалы 25 сакавіка — найвышэйшай яе крытэрыяй.

Да гэтае новае эпохі імкнецца Рух Маладых Адраджэнцаў шляхам народнага пералому. Трэба ўзварушыць народнае сумленьне і нутро беларускага духа, трэба адважна ўдарыць у пасыўнасьць, клясовасьць, несправядлівасьць — бязверра ў народныя сілы, трэба паставіць за кліч: самі сабе сваімі сіламі.

А ў гэтым змаганьні за вялікае заўтра ў безканечнай рэвалюцыі духа да лепшага і справядлівага ладу, М. А. набіраюць сілы з веры ў трыумф ідэі над матерыяй, праўды над фальшам, з гарачай любові да свайго народу.

Узбуджаныя сілы Народу, вызваленыя ад дэкадэнцыі, магутныя пераломам, магутнейшыя хрысьціянскай ідэяй, Рух Маладых павядзе да новага будаўніцтва грамадзкага ладу на аснове хрысьціянскай констытуцыі: Праўды, Любові і Справядлівасьці".

Паглядзім, што гэта групка зрабіла. Мала, вельмі мала, але гэта ня важна, бо больш ніхто пры тых магчымасьцях, якія яны маюць, зрабіць не здолее. Важнае ёсьць тое, што яны робяць, што магчыма. І так выдаюць „25 сакавіка“ і „Пралескі“. Гэтыя часапісы выходзяць рэдка, але як сказана ня іх у гэтым віна.

На плюс могуць сабе запісаць Маладыя Адраджэнцы і тое, што справа змаганьня з алькагалізмам рушыла ўперад. Усім ведама, што яны падалі да ўладаў да зацьверджаньня статут Беларускага Саюзу Абстынэнтаў. На жаль змаганьне з алькагалізмам арганізацыйна праводзіцца ня можа. Праца аднак у гэтым кірунку на марна не пашла: беларускія студэнты на сваім сходзе аднагалосна пастанавілі неарганізацыйна змагацца з гэтай небясьпекай для народу. Адначасна забавязаліся і самі не ўжываць алькагольных напіткаў.

Прыемна чытаць беларускія часапісы спасьцерагаючы, што ўжо няма варожасьці паміж беларускімі групамі. Пацешыцца могуць М. Адр. бо яны можа ў дэцыдуючай меры да гэтага прычыніліся.

Хто чытае „25 сакавіка“ той заўважыў, што ідзе там сыстэматычная праца над распрацоўкай найбольш адпаведнага для Беларускага Народу копэратыўна-корпорацыёністычнага ладу.

Усе мы помнім, што яшчэ перад некалькімі гадамі студэнты прапананьняў хрысьціянскіх не адважы-

валіся адкрыта й выразна выступаць у дыскусыях у абароне хрысьціянскага сьветапагляду. Гэтыя часы належаць ужо да мінуўшчыны, а думка хрысьціянізацыі нашага жыцьця пасярод маладых мае вялікі поступ.

Прачытаўшы ўсё гэта нехта можа падумаць, што тут ёсьць хвальба. Не аб хвальбу аднак ідзе Маладым Адраджэнцам. Яны на ўспомненых прыкладах хочуць паказаць свае імкненьні: адрадзіць беларускае жыцьцё з нутра і прыспасобіць народ да лепшае будучыні. Кожны чын для беларускае справы — гэта шаг у перад да адраджэньня нашай Бацькаўшчыны. Маладыя Адраджэнцы хочуць ісьці гэтымі шагамі шторазь актыўней.

*Стасіла.*

# Narodnaja kultura i jaje rola

Wioska i jaje kultura narodnaja stajecca štoraz bolej abjektam zacikaŭleńnia nia tolki amatorskaha, ale hłybaka nawukowaha.

U paru ramantyzmu, narodnaj kulturaj zacikaŭlalisia amal wyklučna paety, piśmieńniki i niekatoryja muzykalohi-kampazytary, jakija šukali nowych temaŭ, žanru u skarbnicy narodnych bahaćciaŭ. Staralisia jany ŭplatać u nowuju swaju twórčaść perły narodnaj twórčaści. Socyjolohi, etnohrafy i inš. nawukoŭcy ŭ tuju paru jašče nia ŭmieli z adpawiednaj acenaj padyjści da narodnaj kultury: rabili tolki fragmentaryčnyja sproby jakija nie dawali poŭnaha wobrazu tej ci inšaj haliny narodnaj kultury. I tolki dwaccataje stahodździe, a nawat apošnija hady zmusili da hłybiejšych dośledaŭ narodnaj kultury, jak etnohrafaŭ, historykaŭ mastactwa, filalohaŭ, psycholohaŭ, ekanamistaŭ, a pieradusim socyjalohaŭ. Siańnia my bačym na niwie narodnaj kultury šmat roznaha rodu daśledčykaŭ, ale nia ŭsie jany nažal z adpawiednaj padhatoŭkaj prystupili da pracy, a što horš, što šmat z ich pracuje nie dla nawuki sensu stricto, a tolki dla metaŭ palityčnych. Rola ich z punktu hledžańnia nawukowaha jość wielmi niekarysnaj dla samoj nawuki, dla samoj praŭdy: jak-ža časta jany dakazywajuć niapraŭdu,

z biełaha robiać čornaje. Asabliwa akažacca heta rabota wielmi škodnaj u budučyni, bo pryšłyja pakaleńni buduć zmušany karystacca fałšywymi dadzienymi.

Spynimsia krychu nad definicyjaj kultury, bo nia ŭsie ŭmiejuć abjaśnić hetaje paniaćcie. Woś-ža ŭ šyrokim značeńni hetaha słowa nazywajem postup, zdabyćcio wyšejšaj stupieni wiedy, šyrynia świetapahladu i h. d. Abo inšymi sławami hetak definjujem: kulturaj nazywajem sumu zdabyčaŭ razumowych i techničnych, jakaja zhurtawana caławiekam u praciahu doŭhich wiakoŭ isnawańnia. Napr. paŭsiudnaść wahnia, žaleza, umiełaść ziemlarobskaja, aswajeńnie žywioły dzikoj, wynachodnictwa techničnych pryładaŭ nieabchodnych u štodziennym žyćci i h. d. i h. d., usio heta pradstaŭlajecca zdabytkam caławieka, i woś hetyja zdabyčy nazywajem kulturaj.

Dalej my možam kulturu paklasyfikawać pawodle rasaŭ, narodaŭ i hrupaŭ sacyjalnych. Woś-ža jość kultura, abo zdabyčy, jakija zjaŭlajucca ahulna-ludzkim skarbam. Da ich usie narody, ŭsie rasy, ŭsia ludzkaść ziamnoj kuli maje adnolkawyja prawy, bo jana paŭsiudnaja i jakoj my nie zmahli-by znajści pieršapačatnaj krynicy, jak napr. ahoń, užywalnaść metalaŭ itp. Jość i takija zdabyčy kultury, jakich znajem pačatak što da miesca i času, ale jany tak pryswoilisia ŭsioj ludzkaściu, što hetym samym stanowiać katehoryju ahulna-ludzkich zdabyčaŭ, napr. radyjo, telefon, čyhunka i t. d.

Dalej jość zdabyčy kulturnyja, jakija paŭstajuć u ramach etničnych dadzienaj narodnaści, abo jašče wuziej — u asiarodździ sacyjalnych hrupaŭ. I dzieła hetaha majem nacyjanalnyja kultury, ŭ skład jakich uwachodziać kultury: miaščanskaja, sialanskaja, zaściankowaja i dworskaja (šlachocka-panskaja). A taksama razdrabniajecca na paasobnyja hrupy napr.: kultura rybałowaŭ, pastuchoŭ (u narodaŭ, dzie značnaja kolkaść nasielnicwa zajmajecca žywiołahadoŭlaj) i h. d.

Uwieś narod biełaruski zjaŭlajecca ŭ 80 pracentach ziemlarobskim—sialanskim, dzieła hetaha naša kultura jość sialanskaj ci jak kažuć palaki „ludowaj". Woś hety „ludowy" charaktar našaj kultury, jaki absalutna pierawažaje nad usimi inšymi „kulturami" — pawinien lehčy ŭ asnowu našaj nacyjanalnaj kultury, ci jak skazali-b palaki „kultury narodowej". Jak bačym niama ŭ nas ani „narodowej", ani „ludowej" kultury, a jość adna narodnaja (nacyjanalnaja) kultura — fundament z wartaściaŭ stworanych sialanskim biełaruskim narodam, na jakim budujecca nowaja kultura z wartaściaŭ ahulna-ludzkich, jakija adžyŭlajucca sokami idučymi z kareńniaŭ našaj sialanskaj kultury, a hetym samym stanowiacca arhanična zwiazanymi z našaj kulturaj, z našaj psychikaj narodnaj. Usie techničnyja wiedy,

zdabyčy ludzkija, kali tolki ŭrastucca ŭ naš hrunt etničny—stanowiacca našaj ułasnaściu. Ale nie zabywajma ab tym, što my byccam źjaŭlajemsia *parazitami ahulna-ludzkich zdabyčaŭ*, što tolki čakajem na płady ludzkoha rozumu. Nie! My taksama žywiom i tworym swaje cennaści, jakija iduć u świet i traplajučy na adpawiedny hrunt nasłojwajucca — bywajuć pryjmanyja praz inšyja narody.

Ci mała zdabyčaŭ našaha narodu pryniali našy susiedzi Palaki, Litoŭcy, Maskali, Ukraincy, Łatyšy i h. d. Ab hetym nia treba *dakazywać, bo ŭžo dakazali jazykawiedy, etnohrafy*, archeolohi i historyki mastactwa.

Asabliwaści našaj kultury bywajuć razpaŭsiudžanyja praz našych žaŭnieraŭ, emihrantaŭ, wolnych pasialencaŭ ci prymusowych, nia tolki ŭ Eŭropie, Azii, ale i ŭ Amerycy, dzie našaja emihracyja asiadała na ralli i tam prystupała da pracy ziemlarobskaj z wiedaj uziataj z rodnaha kraju.

Niechta moža pastawić pytańnie, čym narod biełaruski rožnicca ad inšych narodaŭ, jakija jaho asabliwaści kulturnyja? Na hetaje pytańnie biaz žadnych trudnaściaŭ kožny daść adkaz, kali paraŭnaje siabie i swaju siamju i jaje štodziennaje žyćcio z čužyncam. Pieradusim my rožnimsia ad čužyncaŭ swajoj samastojnaj mowaj, jakaja maje swaju cikawuju historyju, siahajučuju ŭ hłybokuju staradaŭnaść. Majem swaju ŭłasnuju *bahatuju narodnuju tworčaść: pieśni. baśni, kazki*, prykazki, narodnuju mudraść (filozofiju), majem swajo narodnaje mastactwa: cudoŭnyja narodnyja melodyji, skoki, raźbu i artystyčnaje tkactwa. Majem swaje zwyčai i narodnaje *prawa*, jakoje zadziŭlała i zadziŭlaje ŭsich wučonych (statuty bieł.-litoŭskija), majem zwyčajowaje prawa, jakoje rehuluje i siańnia našaje siamiejnaje i narodnaje žyćcio, majem bahatuju narodnuju kulturu techničnuju, majem swaju nacyjanalnuju wopratku. Urešcie my absalutna adrožniwajemsia ad našych susiedaŭ narodnaj psychikaj, našymi nachiłami i dyspozycyjami psychičnymi, temparamentam i h. d. i h. d. *Ahułam my pradstaŭlajem zusim samastojny etnos*, zusim samastojnuju nacyju z jaje swajeasabliwaju kulturaj materjalnaj i duchowaj, što i tworyć naša wyraznaje i apryčonaje *narodnaje „ja". A adsiul zusim prosty i jasny wysnaŭ*, što narodnaja kultura swaimi asabliwaściami akreśliwaje z nŭtra i na wonki narod. I dzieła hetaha zrazumiełaja rola narodnaj kultury. Datul narod «*nie pamre*», pakul nie pazbudziecca charakternych rysaŭ swajoj kultury, h. zn. jazyka, narodnaj tworčaści, swaich zwyčajaŭ i h. d.

Jakim-ža čynam narod pawinien baranicca ad «*nacyjanalnaj śmierci*»?

Pieradusim nie pawinien ničoha prymać nacyjanalnaha

z kultury najbližejšaha i agresyŭnaha susieda, aprača techničnych wiedaŭ, jakija wytwarajucca siańniašnim dniom, bo hetyja wiedy dziakujučy chutkamu raspaŭsiudžwańniu źjaŭlajucca ahulna-ludzkoj zdabyčaj, a ahulna-ludzkija zdabyčy kulturnyja my pawinny achwotna pryjmać i asymilawać na našym etničnym hruncie. My nie pawinny pryjmać čužoj mowy, jakaja miełab razpaŭsiudžwacca siarod našaha narodu koštam našaj mowy. My nie pawinny pryjmać susedniuju narodnuju kulturu; asabliwa zwyčai, pieśni i h. d. Nie pawinny ŭwodzić na našaj wioscy čužuju nacyjanalnuju wopratku, jak polskuju: krakaŭskuju ci ławickuju, abo maskoŭskuju. Kali zahubim swoj wonkawy nacyjanalny wyhlad i duchowy (mowa i zwyčai), to hetym pierastaniem isnawać jak narod.

Narod jaki zahubić swajo nacyjanalnaje abličča i apranie čužuju wopratku wonkawuju i psychičnuju, stajecca paśmiešyščam ludzkaści, stajecca jon, jak kažuć Palaki «ni pies ni wydra». Hetakich «wydraŭ» my majem u niekulkich wołaściach Wilenska-Trockaha pawietu, dzie nasielnictwa z pryčyny utraty swajho nacyjanalnaha abličča, stałasia žabrackaj z punktu hledžańnia kulturnaha — swajho radzimaha pazbyłosia, a čyžym nie zbahaciłasia.

Dyk šanujma swaju nacyjanalnuju kulturu, razwiwajma jaje i budźma tym narodam, jakim byli tyśiačahodździ, kab i ŭ dwaccatym stahodździ daraŭnać usim samastojnym i kulturnym narodam.

*P m.*

## Корпарацыёнізм як новая форма дзяржаўнага строю

Праблема перабудовы дзяржаўнага строю была заўсёды вельмі важнай, цяпер-жа па сусьветнай вайне набрала яна асаблівай актуальнасьці з прычыны крызысу старых эканамічных і соцыяльных формаў.

Век XIX, назавём яго перыядам буржуазыякрацыі, прывёў да перамогі мяшчанства, элемэнт найбольш сьведамы дык найбольш творчы, а дзеля таго і кіруючы. Буржуазія тады пераменяе стары фэодальны лад дзяржавы на капіталістычны, прытарнаваўшы палітычны строй да сваіх мэтаў, дзеля

абароны сваіх інтарэсаў, ясная рэч супярэчных з інтарэсамі ўсяго грамадзянства.

Для абароны здабытых правоў уводзіцца і разшыраецца дзяржаўны апарат — бюрократыю, армію, паліцыю, турмы і іншыя ўстановы. Органы гэтыя павінны дзеіць у рамах законаў і інтарэсаў пануючай клясы. Сутнасьць гэтых інтарэсаў вось такая: шырака разьвіты індывідуалізм і эканамічны лібэралізм, зносяцца ўсе ўплывы дзяржавы і грамадзянства на свабоду адзінкі. Функцыі дзяржавы зводзяцца да пільнаваньня парадку, спакою нутранога і замежнага, да абароны ўласнасьці, „прыродных" правоў адзінкі і незачэпнасьці прыватнае ініцыятывы. Гэткі апарат, ясная рэч, штораз мацней падмацоўваў буржуазную клясу, а з другога боку стыхійна вёў да пролетарызацыі шырокія масы насельніцтва.

Супроць капіталістычнага строю выступіў перадусім пралетарскі рух ад палавіны XIX веку штораз адважней, рух работнікаў і сялян, якіх прабудзілі і ўмацавалі лёзунгі роўнасьці, свабоды і справядлівасьці. Гэтыя лёзунгі былі толькі клічам да барацьбы. Сьвет працоўных ня мог здаволіцца фармальнымі палітычнымі правамі, калі ўлада была сканцэнтравана ў руках буржуазіі. Што найважнейшае — кіраўніцтва дзяржаўнай і эканамічнай палітыкай — не давалі яшчэ працоўным усе рэвалюцыйныя рухі XIX в.

Дык барацьба працоўных не магла спыніцца на здабытках буржуазнай, нэгатыўнай дэмократыі. Яна пачала разьвівацца далей каб працоўныя сталіся дэцыдуючым дзейнікам ува ўсіх праявах дзяржаўнага жыцьця, а перадусім у галіне палітычнай і эканамічнай.

Дзеля таго ўжо пад канец XIX веку працоўныя злучаюцца ў профэсыянальныя арганізацыі, твораць коопэратывы і работніцкія саюзы, якія што раз выдатней змагаюцца за правы працоўнае клясы. Стрэйк, блёкада і рэвалюцыя—вось аружжа работнікаў, а таксама часткава і сялян у барацьбе з капіталізмам. У гэтай барацьбе вытвараецца адналітасьць думкі і салідарнасьць інтарэсаў. З другога боку і паасобныя капіталісты злучаюцца, арганізуюцца, каб даць процівагу пролетарскаму руху і адпор. Вырастаюць такім чынам трэсты, сындыкаты і канцэрны, якія гуртуюць сьвет капіталу да інтэнсыўнейшай экплёатацыі працоўных і барацьбы.

Такім спосабам грамадзянства дзеліцца на клясы варожа да сябе накіраваныя і заўсёды гатовыя да барацьбы за свае клясавыя інтарэсы. Барацьба кляс так захапіла ўсё жыцьцё грамадзкае, што сацыялісты, высунулі агульны

прынцып — барацьба кляс ёсьць выключным дзейнікам у гаспадарстве *).

Але барацьба кляс implicite нясе рэвалюцыю, ламаньне і ністажэньне ўсяго дзяржаўнага і грамадзкага будаўніцтва, сее анархію і злыбяды, ахвяры ў людзях і народным багацьці. Дык чалавечая думка ў сутычцы з агнём рэвалюцыі, мячом дыктатуры пролетарыяту, пачала шукаць іншага выхаду з крытычнае сытуацыі. І тут ажылі добра знаныя ў сярэднявеччы формы корпорацыёнізму. У горадзе сярэднявечным усе прафэсыі-фахі былі сарганізаваныя ў саюзы з лацінска корпорацыі. Гэтыя корпорацыі баранілі сваіх сяброў перад уладай, кіравалі гаспадарчым жыцьцём сваіх сяброў іх судзілі і ўстанаўлялі цэны на тавары, справядлівую плату, арганізавалі рынак і т. д. і адначасна лучылі там уласьнікаў сродкаў прадукцыі (працадаўцаў) і рамесьнікаў — звычайных працаўнікоў у адну суцэласьць. Форма гэткая зусім паказалася спрыяючай, каб раздзеленыя клясы капіталістаў і работнікаў тае самае прафэсыі злучыць у вадну арганізацыю, якая арганічна лучылаб інтарэсы дзьвёх, дагэтуль варожых кляс. Такое злучэньне капіталу й працы ў адным саюзе спынілаб барацьбу кляс і затармазілаб магчымую пролетарскую рэвалюцыю.

Такім чынам фашызм у сваей палітычнай праграме выпісаў корпорацыёнізм як новую форму дзяржаўнага строю.

Сутнасьцю гэтага строю ёсьць: 1) сарганізаваньне сацыяльна-гаспадарчага жыцьця на аснове саюзаў-корпорацыяў, якія лучыліб салідарна інтарэсы з аднаго боку капіталу, а з другога працы; 2) прызнаньне корпорацыям самаўраду; 3) утрыманьне прыватнае ўласнасьці.

Кожны чалавек выконваючы свой фах павінен прымусова прыналежаць да корпорацыі свае прафэсыі (парабак і абшарнік да корпорацыі аграрнай, фабрыкант і работнік да свае корпорацыі і г. д.), паддацца корпорацыйнаму рэгуляміну і усім пастановам. Корпорацыя ёсьць публічна-праўнай натуры. Паміж працадаўцамі і работнікамі ў аднэй корпорацыі ня можа паўстаць барацьба, а ўсе яе праявы (стрэйк, лёкаўт) ёсьць законамі забаронены. Усе дамаганьні

---

*) Паводле Маркса дзяржава не маглаб ані паўстаць, ані ўтрымацца, калі-б спынілася барацьба кляс. Дзеля таго (Engels) ня толькі дзяржавы старадаўныя і фэодальныя былі аружжам для эксплёатацыі нявольнікаў і сялян, але і сучасная дзяржава ёсьць прыладай эксплёатацыі працы ў руках капіталу. Формы буржуазных дзяржаў ёсьць вельмі розныякія, але зьмест іх аднолкавы; усе яны зьяўляюцца дыктатурай буржуазіі Дзеля таго немагчымая ёсьць згода кляс. Зьнішчэньне дыктатуры буржуазіі. можа правесьці толькі дыктатура пролетарыяту.

і сваркі павінны быць вырашаны арбітральна, перад корпарацыйным судом, які мае прэрогатывы дзяржаўныя. Такія-ж прэрогатывы мае і выбраны (або менаваны як у фашызме) урад корпарацыі. Усе паасобныя саюзы аднаго фаху сарганізаваны гіерархічна з вышэйшай корпарацыяй на чале. Над усімі паасобнымі вышэйшымі корпарацыямі існуе яшчэ Корпарацыйны Парлямэнт і дзяржаўная ўлада. Ad 2. Кожная корпарацыя карыстаецца самаўрадам пэрсональным (у Польшчы Ізбы адвакацкія, рамесьніцкія, аграрныя і г. д.) гэта значыць спаўняе функцыі здэцэнтралізаванай дзяржаўнай адміністрацыі. Мае права накладаць на сваіх сяброў падаткі і іншыя цяжары. З другога боку кожны сябра корпарацыі мае голас у справах корпарацыі і можа быць выбраным да ўраду корпарацыі. Ad 3. Як гэта яшчэ скажам корпарацыёнізм не імкнуўся да поўнае ліквідацыі капіталізму. Хацеў толькі абмежыць лібэральныя імкненьні і перабудаваць стары капіталістычны лад і адначасна злучыць яго з некаторымі тэзамі соцыялізму і этатызму. Дык прыватная ўласнасьць і далей асталася аснаўным стаўпом уладаньня адзінкі. Аднак прыватная ўласнасьць у корпарацыёнізме ёсьць толькі функцыяй грамадзкай. Калі толькі дабро корпарацыі або дзяржавы гэтага вымагае прыватная ўласнасьць павінна служыць не адзінцы а корпарацыі ці дзяржаве.

Апрача гэтых трох элемэнтаў корпарацыёнізму падчыркнуць яшчэ трэба асновы палітыкі гэтага строю. Зводзяцца яны да: 1) рэглямэнтацыі працы. Гэта азначае што корпарацыя сьцісла азначае нормы працы, час працы і заплату, прытым дзяржава санкцыянуе гэтую рэглямэнтацыю. Дзяржава заўсёды можа кіраваць усімі дзейнікамі працы: сілай работніка, машынамі, капіталам і г. д.; 2) Корпарацыя спаўняе арбітральную ўладу над сваімі сябрамі, калі дойдзе да канфлікту між імі; 3) Корпарацыя выконывае ўладу дысцыплінарную над паасобнымі сябрамі; 4) Корпарацыя адмініструе корпарацыйнай маемасьцю, якая творыцца з публічных падаткаў і іншых цяжараў паасобных сяброў і каторая ёсьць патрэбная корпарацыі для выконываньня публічных функцыяў (соцыяльная апека, барацьба з безработоцьцем, профэсыёнальная асьвета і г .д.; 5) Корпарацыя рэпрэзэнтуе на вонкі профэсыю і бароніць яе інтарэсаў; 6) Корпарацыйная дзяржава рэглямэнтуе вытворчасьць. Гэта значыць, што ўсе складовыя элемэнты вытворчасьці (капітал, контынгэнт, цана, рынак, якасьць прадукту і г. д.) ёсьць арганізаваны паводле агульнага дзяржаўнага пляну (пяцілеткі).

Цана ў капіталістычным ладзе ёсьць рэзультатам ігры запатрэбаваньня і даставы. У корпарацыёнізме дэцыдуючым

тут будзе дабро агульнае, дабро дзяржавы, народу або карпарацыі. Дык гаспадарства ёсьць тады суцэльнасьцю саргнізаванай тэлеолёгічна (мэтадычна, цэлёва) у якім не свабодная ігра эканамічных сіл ёсьць рэгулятарам эканамічнага жыцьця, але воля сарганізаваных у вадзін арганізм корпарацыяў у дзяржаве так працоўных як і капіталістаў.

Апісаны тут лад ёсьць праведзены ў жыцьцё ў Італіі (1926 г.), у Португаліі (1934 г.). Апрача гэтага трэба зацеміць што ад часу выданьня Папай Піусам XI энцыклікі „Quodragesimmo Anno" пачаў вельмі разьвівацца хрысьціянскі корпарацыёнізм. Розніцца ён перадусім тым ад фашыстоўскага, што зьяўляецца корпарацыёнізмам грамадзкім і апіраецца на прыроджаных правох адзінкі, з якімі дзяржава павінна лічыцца. Корпарацыёнізм фашыстоўскі ёсьць палітычны і тотальны, стаўляе над усім аўтарытэт дзяржаўнае ўлады і дыктатуру пануючай, фашыстоўскай партыі. Корпарацыёнізм хрысьціянскі ёсьць авеяны грамадзкай справядлівасьцю і любоўю, і змагаецца з таталізмам прызнаючы адзінцы асабовасьць і поўныя правы так грамадзкага як і собскага жыцьця. З фашыстоўскім корпарацыёнізмам лучыцца хрысьціянскі толькі самай структурай.

Дык як ужо мы з гэтага бачым корпарацыёнізм ня ёсьць тэорыяй эканамічнай, але par exellence палітычнай і структуральнай. Будучы толькі палітычнай формай корпарацыёнізм ня можа даць зьместу гаспадарчаму жыцьцю. Даючы толькі форму можа пасярэдня аддзеіваць на гаспадарчае жыцьцё, можа толькі тармазіць або прысьпяшаць разьвіцьцё пануючай сыстэмы. Фашысты зьмянілі толькі форму. На месца лібэралізму і індывідуалізму, этатызму і сындыкалізму увялі новую—корпарацыёнізм і гэтым толькі спынілі барацьбу кляс, якая была небязпечнай для капіталізму. Зьмест астаўся стары — капіталістычны. Перамяніць гэты зьмест на новы, сацыяльнай справядлівасьці фашызм не адважыўся, мо' зусім не хацеў, бачачы ў гэнай форме найлепшае аружжа да барацьбы за імпэр'ялістычныя імкненьні.

З другога боку трэба прызнаць вышшасьць асабліва хрысьціянскага корпарацыйнага строю, калі ідзе аб самую арганізацыю, над усімі іншымі. Поступам ёсьць тут прызнаньне эканамічных правоў адзінцы і яе ўчасьце ў гаспадарчым жыцьці, што адказвае пануючым тэндэнцыям эканамічным. Скажам яшчэ, што корпарацыйная форма найбольш адказвае новай дэмократыі працоўных, ясная рэч, форма хрысьціянская, творыць сарганізаваны інтэлект да лепшай і выдатнейшай абароны адзінак перад наступам эксплёата-

тараў. Зьмена палітычнага парлямэнту на парлямэнт гаспадарчы, з аднаго боку зьнясе барацьбу партыяў, а з другога ўвядзе фаховыя адзінкі пры поўным дэмократычным прынцыпе галасаваньня.

Трэба толькі гэнай форме (корпорацыйнай) даць такі зьмест, які-б найбольш адказваў грамадзкай справядлівасьці, любові і пашане кожнай адзінкі. Зьмест гэны з свае істоты павінен быць антыкапіталістычны і адначасна дасканальнейшы ад бальшавіцкага коллектывізму. Зьместам гэтым ёсьць сыстэма коопэратывізму. Вось чаму мы выпісалі ў сваей ідэовай дэклярацыі і чаму змагаемся за корпорацыйны коопэратывізм.

Думаем, што цяпер будзе ясна ўсім тым, што не маглі зразумець палучэньне ў нашай дэклярацыі корпорацыёнізму і коопэратывізму ў адзін грамазкі лад.

Да гэтай справы яшчэ вернемся.

*В. Папуцэвіч.*

# ALKAHOL — NAŠ WORAH

26 lutaha sioleta Ahulny Schod Siabroŭ Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu Wilenskaha Uniwersytetu adnahałosna pryniaŭ pastanowu — ustrymacca ad pićcia alkaholnych napitkaŭ i zmahacca za ideju ćwiarozaści. Pastanowa hetaja jość niazwyčajna ważnaja i świedčyć ab poŭnaj daśpiełaści maładoj biełaruskaj intelihencyji.

Studenty zrazumieli, što ŭ siańniašnim zmahańni pieramahajuć tolki silniejšyja ciełam i ducham, hartam woli i charakteru. Ćwiarozaść jakraz padmacoŭwaje cieła i hartuje ducha, wyrablaje wolu i stojkaść u baraćbie za ideały.

I kali inšyja dziaržaŭnyja narody hetak dumajuć to tymbolš ćwiarozaść i baraćba za jaje sprawu pawinna być asnaŭnym staŭpom našaha adradžeńnia. Tak razumieli sprawu Maładyja Adradžency, kali ŭ minułym hodzie rabili starańni ŭ administracyjnych uładaŭ dzieła zalegalizawańnia Biełaruskaha Abstynenckaha Sajuzu. Admoŭny adkaz Ministerstwa, dzie byli adklikalisia zakładčyki, sparaližawaŭ hetuju akcyju. Biełarusy farmalna nia mohuć zmahacca z swaim woraham — harełkaj i pašyrać zbožnaj idei ćwiarozaści! Ale forma jość pryčepkaj

da źmiestu. Źmiest maje być samastojny i niezależny ad formy. Jon daśpieŭ siarod biełaruskaj intelihencyji i tolki šukaŭ afarmleńnia. A kali jano nie nastupiła, pačaŭ swajo samastojnaje žyćcio. Studenty, a za jimi ŭsia biełaruskaja intelihencyja ŭ Wilni kinuła i prawodzić u žyćcio lozunh — d a ł o ŭ  z  h a r e ł k a j! Hety lozunh pawinien zachapić usich biełarusaŭ i pad jaho ściaham dawiaści da baraćby za ćwiarozaść.

Razhledzim tut jakija pryčyny dawiali biełaruskich studentaŭ da pierakanańnia, što alkahol — naš worah, z jakim tre' jak najbolš radykalna zmahacca.

Alkahol — słowa arabskaje, aznačaje takuju častku harełki, piwa, wina, samahonki, jakaja dadaje im apjaniajučych ułasnaściaŭ. Aznačaje jon tady nia tolki harełku, ale ŭsie inšyja chmialnyja napitki. Harełka budzie tolki najbolš typowaj jaho admienaj.

Usie adnak admieny alkaholu škodziać dla čaławieka i škodnaść hetuju možna padzialić na 3 hrupy:

1) škodnaść alkaholu na čaławiečy arhanizm i na patomstwa;
2) nistažeńnie siamji i ŭsiakaj morali;
3) nistažeńnie nacyjanalnaha arhanizmu.

Ad 1. Usie chmielnyja napitki škodziać zdaroŭju čaławieka. Mocnyja harełki škodziać zdaroŭju chutčej, słabyja: wino i piwa pawalniej, ale napeŭna. Ad łyžki spirtu moža pamierci dzicia, ad ćwierci abo poŭ litra darosły čaławiek.

Alkahol z rotu papadaje ŭ žywot i kiški, potym wielmi chutka pierachodzić u kroŭ, a z krywi razychodzicca pa ŭsim arhanizmie. U kožnaj amal kletaččy pačynaje swaju rujnujučuju rabotu. Užo swaim chimičnym składam, dziakujučy swajactwu da wady, sušyć śluzawuju plewu i zabiwaje žywyja jaje kletki i hetym samym wyklikaje katar žałudka i kišak, a ŭ dalejšym etapie strašnuju chwarobu — raka.

Taksama alkahol nistožyć serca — hety hałoŭny mator žyćcia. Pierš za ŭsio adtłuščaje asiarodździa serca i hetym tarmozić jaho narmalnyja funkcyji. Dalej muskuł sercowy z pryčyny usilenaj pracy z adnaho boku, a drennaj, bo zatrutaj pažywy z druhoha, što raz chutčej degenerujecca i wiadzie da ciažkich chwarobaŭ — nerwicaŭ. Nienarmalnaja praca serca adbiwajecca na ŭsim arhanizmie. Nienarmalny puls udarajučy na mozh, pobač samaha adjemnaha dziejańnia atruty na najbolš delikatny worhan čaławieka, jość pryčynaj usiakaha rodu nerwowych i psychičnych chwarobaŭ. Nawuka dakazwaje, što 50 proc. psychičnych chwarobaŭ (warjactwa) paŭstaje dziakujučy alkaholnym napitkam. Alkahol padobna jak inšyja atruty

(morfina, kokaina, opjum) addzieiwaje asabliwa drenna na mozh i duchowaje žyćcio čaławieka. Tarmozić asiarodki woli ŭ mazhach čaławieka i hetym samym čynić z čaławieka źwiera. Praca, mowa, wiasiołaść padpiŭšaha jość nienarmalnaj i kudy adstałaj ad spraŭnaści zdarowaha čaławieka.

Hetak npr. paraŭnali pracu rabotnikaŭ, jakija pracawali wypiŭšy dźwie, try čarki wodki i pracu tych-ža samych rabotnikaŭ, kali jany byli ćwiarozymi. I što-ž wyšła? Paśla pićcia nat' tak niewialikaj kolkaści alkaholu rabotniki pracawali horš i pawalniej, mašynisty i drukary rabili wielmi šmat pamyłkaŭ.

Padwypiŭšy čaławiek robicca nasilnym, biazlitasnym, skorym da roznych začepak, kałatni i prastupkaŭ. Statystyka pakazwaje što bolš 70 proc. usich prastupkaŭ suproć maralnaści, bolš 50 proc. zabojstwaŭ, bolš 80 proc. krywawych bojak — ad pićcia alkaholnych napitkaŭ, bolej jak 60 proc. žančyn prostytutak.

Uspomnim jašče, što j inšyja worhany čaławieka aprača tut pieraličanych (žywot i kiški, serca i mozh) nistožyć strašenny worah-čaławieka. Taksama chwarejuć lohkija, kasa j nyrki. Usie hetyja wielmi ważnyja worhany čeznuć i chwarejuć na roznyja katary.

Možna skazać śmieła, što chwaroby, jak wiernyja pryjacieli — iduć supolna z alkaholam. 75 proc. weneryčnych chwarob paŭstajuć u alkaholnym padchmielli.

Alkahol, inakš jak dumajuć pracoŭnyja, jość škodny dla fizyčnaj pracy — asłablaje siły čaławieka.

Kožny, a asabliwa sielanin i rabotnik, jakija žywuć z pracy swaich ruk, pawinien uciakać ad alkaholu, bo jon niščyć krynicu ich siły muskuły. Alkahol dla muskułaŭ toje samaje, što puha na zmoranaha kania. Jon tolki asłablaje čućcio nerwaŭ i čaławieku zdajecca što nie pačuwaje zmareńnia. Z hetaj-ža pryčyny ŭsim spartoŭcam pić alkaholnyja napitki zabaroniena.

Ale nia tolki alkahol škodny dla taho chto jaho pje. Jon nia mienš škodny i dla patomstwa zrodžanaha z niećwiarozych abo ŭžywajučych alkahol baćkoŭ.

U siemjach takich wielmi časta prychodziać na świet dzieci ci niažywyja, ci niazdolnyja da žyćcia, ci chworyja na roznyja chwaroby, ci wielmi lohka chwarejuć na žywot, zapaleńnie kišok, horła, lohkich, škarlatynu, wodru, suchoty, kokluš i inš. abo rodziacca niedaraźwityja i adurnieŭšyja.

Dzieci alkaholikaŭ wielmi drenna wučacca i majuć nachiły da roznych prastupkaŭ, da pakražy, abmanaŭ, uporystaści i h. d. a što najhorš sami wielmi časta astajucca alkaholikami i ŭžo ŭ maładych hadoch pjuć harełku j inšyja alkaholnyja napitki. Da hetaha namaŭlajuć wielmi časta j sami baćki pry roznych akazyjach, jak wiasielli, chreśbinach ci inšych i hetym

robiać samuju wialikuju škodu dla swajich dziaciej, dajučy atrutu - harełku.

Ad 2. Alkahol nistožyć siamju i ŭsiakuju maral. Siamja — heta najmienšaja hramadzkaja kletka i apiryšča ščaścia čaławieka. Siamja alkaholika razjedzienaja praz alkahol jość najnieščaśliwiejšaja na świecie. U chacie choład i hoład i nienawiść; niama čym dziaciej prykryć ani sahreć, bo baćka ŭsio prapiwaje. U siamji pjanicy wiečnaje piekła, wiečnyja swarki i kałatni. Baćka bje žonku, maci dziaciej najčaściej biaz pryčyny. U siamji pjanicy nia moža być miesca na kachańnie samych baćkoŭ i dziaciej, niastaje tam chryścijanskaha złučywa — lubowi. Alkahol uściaž padrywaje ŭsie sproby lepšaha žyćcia i časta zachaplaje niatolki baćku. Apuščeńnie žonki i dziaciej, źnistožanaje siamiejnaje ščaście, horkija ślozy, heta ŭsio spryčyniajecca da taho, što pačynaje pić žonka i dzieci, wytwarajučy jašče bolšaje piekła na ziamli. Usio, što najpryhažejšaje ŭ čaławieku, ŭsie ideały i imknieńni hinuć u pjanicy. U im astajecca ŭsio, što čaławieka łučyć sa źwiarom dyj jašče horš.

Pjanica robicca strašennym samalubam — usio tolki dla siabie, ničoha dla inšych. Usie najlepšyja pačućci: kachańnie Boha, Baćkaŭščyny, dziaciej — prapadajuć, astajecca niewolnictwa worahu — alkaholu. Časam buduču ćwiarozym, pjanica wiedaje, što drenna robić, zhadžajecca z tym, chto admaŭlaje jaho ad pićcia harełki i abiacaje paprawu, ale słabaja wola nikoli hetaha nia zdziejśnić. I choć praklinaje swajo žyćcio, kali adnak pryjdzie žadańnie pić — ab paprawie zabywajecca, ab usich pastanowach. Stan hetki pahražaje kožnamu, chto tolki pje nia hledziačy na toje jak časta.

Alkahol zabiwajučy maral takim čynam adčyniaje prastornuju darohu da prastupkaŭ, sudoŭ i wiaźnicaŭ.

Ad 3. Alkahol jość zhubaj narodu. Kolki niaščaścia niasie alkahol dla cełych narodaŭ chaj pakaža abrazok z historyji amerykanskich autochtonaŭ — indyjan. U XVI stahodździ ŭ suwiazi z zachwatam Eŭrapejcami Ameryki, kožny chto moh imknuŭsia, kab zdabyć bahaćcie, zołata i čyrwonych niawolnikaŭ. Zachopnickaja dziejnaść Eŭrapejcaŭ nia spyniałasia pierad razbojami i ździekami i dziela taho indyjanie chapili za aružža, kab baranić swaich prawoŭ i žyćcia. Nia hledziačy na niepamierna lepšaje aružža, Eurapejcy nie zmahli Indyjanaŭ. Tady pačali paić ich harełkaj i hetym pieramahli.

I Biełaruskamu Narodu pahražaje niebiaśpieka z boku nutranoha woraha — alkaholu. Kali ŭsie inšyja narody siańnia łučacca, konsolidujucca i adradžajucca ŭ ćwiarozaści (Hiermancy, Italjancy, Balšawiki) kali ŭzhadoŭwajuć waroży dla

słabiejšych imperyjalizm, Biełarusy dalej apanawany strašennymi worahami — alkaholam, ciemraj i niaświedamaściu. Častyja bojki, zabojstwy, samahon, analfabetyzm (niahramatnaść), halita woś žniwo alkaholu, woś fon našaj słabaści.

Štož tady rabić kab pieramahčy našaha trajnoha woraha zdaroŭja, siamji i Narodu?

Adkaz adzin i tolki adzin: Dałoj z harełkaj! Dawoli ŭžo jana niščyła naš Narod, dawoli razjadała našyja siły, dawoli asłabłała nas z nutra.

Ćwiarozaść, ustrymańnie ad alkaholnych napitkaŭ, jość abawiazkam kožnaha Biełarusa, jość nakazam dabra kožnaj adzinki i całaha Narodu. Biełaruskija studenty prawilny ciarebiać šlah da lepšaje budučyni — ŭsio hramadzianstwa pawinna iści ich śledam. Usie jak adzin pačynajem baraćbu z strašennym woraham až da pieramohi.

Pieramoha z nami.

Dałoj z harełkaj! Na boj za światuju sprawu Adradžeńnia.

*Stasiuk z nad Niomna*

# DA KATALIKOŬ BIEŁARUSAŬ U WILNI

Jak wam užo wiedama, Jaho Excelencyja Arcybiskup Romuald Jałbrzykoŭski naznačyŭ mianie wykonywać abawiazki dušpastyra dla Katalikoŭ Biełarusaŭ miesta Wilni.

Heta mianie ŭpawažniaje źwiarnucca da Was, jak da swaich najdaražejšych z prośbaj prybyćcia na rekolekcyji, katoryja budzie mieć a. Šnip T. J. u dniach 23, 24, 25 hetaha miesiaca ŭ kaściele św. Mikałaja a 7 h. wiečaram, a ŭ niadzielu 26. III. budzie adpraŭlena Imša św. za ŭčaśnikaŭ rekolekcyjaŭ i supolnaja świataja Kamunija.

Darahija! Jak kwietka skłaniaje swaju hałoŭku da sonca, bo jana tam znachodzić dla siabie siłu i žyćcio, taksama i duša čaławieka imkniecca da Boha, bo tam tolki znachodzić supakoj i sapraŭdnaje žyćcio. Dušy našaj nichto i ništo nie zdawolić, jak tolki Boh.

Niaraz brak nam času, kab hłybiej ab hetym padumać. Woś u rekulekcyjach, zabyŭšysia ab štodziennych turbotach, zwaročwajemsia da Boha i ačyściŭšy swaje serca praz ščyruju spowiedź, łučymsia z Im u Światoj Kamunji. Praz heta aświečywajem naš rozum praŭdaj, abahrewajem serca luboŭju, a wolu ŭzmacoŭwajem siłaj łaski Božaj da dalejšaha žyćcia.

Darahija, ŭsie jak adzin stańma da pracy nad našym zbaŭleńniem!

*Ks. St. Hlakoŭski*

Wilnia, 19. III. 1939.

Прыемна нам на гэтым месцы з нагоды дзесяцігодзьдзя існаваньня „Шляху Моладзі“ злажыць яго закладчыкам і іх супрацоўнікам нашае шчырае прывітаньне з ня менш шчырым пажаданьнем далейшай шчасьлівай і вытрывалай працы. Дзесяць гадоў ахвярнай працы для Бацькаўшчыны, гэта вялікая рэч.

# ХРОНІКА

**Зацемкі з прэсы.** У месяцы сьнежні 1938 г. па выхадзе апошняга нумару „25 сакавіка“, беларускія часапісы „Летапіс“, „Chryścijanskaja Dumka“ і „Бел. Фронт“ зьмясьцілі зацемкі аб нашым часапісе. „Бел. Летапіс“ назваў Маладых Адраджэнцаў групай „клерыкальна настроенай“. „Chryścijanskaja Dumka“ аднеслася да нас пазытыўна. Першаму адкажам коратка: гэтая зацемка сьведчыць сапраўды „аб новай зьмене“ думкі тых студэнтаў, якія гуртуюцца каля „Летапісу“, зьмене ў кірунку заняпаду, бо ўжо ўсе інтэлігентныя людзі даўно адрожніваюць хрысьціянства ад клерыкалізму. Хрысьціянства — гэта заўсёды жывая маладая, ідэя любові, справядлівасьці і праўды. Клерыкалізм — гэта палітычны кірунак, які бароніць інтарэсаў так эканамічных як і сацыяльных духавенства, часта нязгодных з хрысьціянскай ідэяй. Мы — за хрысьціянскую і нацыянальную ідэю і нічога ня маем супольнага з клерыкалізмам. „Беларускі Летапіс“ або не можа зразумець гэтых дьвёх рэчаў, або зьяўляецца наагул проціўхрысьціянскім. *Tertium non datur.* Што датычыць „Бел. Фронту“, то адказваць яму шырэй няма патрэбы, бо ён сам сябе зьбівае. „Бел. Фронт“ піша гэтак: „Ідэалёгічна-тэорэтычная часьць добрая, але палітычна-практычная зусім не ўдалася“. А далей: „Наагул часапіс робіць уражаньне, што ня можа знайсьці адпаведнага кірунку“. Дык як-жа гэта зразумець: „25 сакавіка“, паводле „Бел. Фронту“ ідэолёгічна добра пастаўлены і адначасна „ня можа знайсьці адпаведнага кірунку“? Значыць „25 сакавіка“ ведае свой шлях і адначасна яго ня ведае, значыць белы і адначасна чорны! Гэта выступае супроць прынцыпаў лёгікі, гэта проста *contradictio*. „Адпаведны кірунак“ думаньня гэта нічога іншага, як сьветапагляд чалавека, як ягоная „ідэалёгічна тэорэтычная часьць“ і калі яна добрая то і „адпаведны кірунак“ добры. Закіды палітычнага характару ня маюць ніякага сэнсу, бо

наш часапіс ёсьць якраз часапісам ідэолёгічным і грамадзкім консэквэнтна праводзячым разпрацоўку маладое беларускае грамадзкае думкі. Жадаем тады „Бел. Фр.“ больш перадуманьня, больш халоднакроўнасьці ўва ўсім што піша.

**Міністэрства Нутраных Спраў** не зьцьвердзіла статуту Беларускага Саюзу Абстынэнтаў. Дык астаецца беларусам змаганьне з алькагольнымі напіткамі неарганізацыйна. Прыгожы прыклад пачатку гэтае барацьбы далі ўсе беларускія студэнты УСБ у Вільні выносячы пастанову на Агульным Гадавым сходзе (26.II.39) сяброў Б.С.С. устрымацца ад алькагольных напіткаў і праводзіць змаганьне за цьвярозасьць сярод нашага насельніцтва. Жадаем гэнай акцыі якнайбольшага разьвіцьця і поўнай консэквэнцыі.

**Рэколекцыі для Беларусаў Акадэмікаў.** 18.III.39 з прычыны непрадбачанага раз'езду студэнтаў УСБ, адбыліся скарочаныя рэколекцыі для акадэмікаў каталікоў пад кіраўніцтвам а. Шніпа. Вялікі лік прысутных на гэтых першых акадэміцкіх рэколекцыях ёсьць найлепшай падзякай для айца-кіраўніка.

**Лекцыі ў „Беларусаведзе“.** Таварыства Беларусаведы ад 22.I.39 сарганізавала цыкль лекцыяў на Унівэрсытэце з галіны гісторыі літаратуры, геаграфіі і эканомікі. Лекцыі адбываюцца кожную нядзелю і сьвята ад гадз. 17—19 вечарам. Рэфэрэнтамі зьяўляюцца др. Я. Станкевіч, дыр. А. Луцкевіч, мгр. адв. М. Шкялёнак, студ. Трафімучанка і абс. мэд. В. Тумаш.

**Становішча чужаземцаў на Беларусі** паводле беларускага права — пад гэтым загалоўкам чытаў вельмі цікавы рэфэрат (11.III.39) у БСС В. Папуцэвіч. Дакладчык у сваіх вывадах даказаў, што Беларусь да 1569 г. (да Люблінскай вуніі) карысталася поўнай дзяржаўнай незалежнасьцю, культурнай і нацыянальнай сьведамасьцю і праяўляла высокую дзяржаўную абароннасьць. Рэфэрат будзе друкавацца ў беларускай прэсе.

**Першай і найбольшай праўдай ёсьць Бог. Бог, як абсалютная праўда ёсьць мерай усякае праўды і чалавечага дзеяньня, бароніць ад чалавекам створаных багоў: фашызму і камунізму; расізму і таталізму. Рух Маладых ідзе па лініі чыстага і консэквэнтнага хрысьціянізму, адкідаючы ўсякія капіталістычныя інтэрпрэтацыі Хрыстовае Навукі.**

(З Ідэовай Дэклярацыі)